# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 25 (695) 22 ЧЭРВЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.




Гайнаўскія вуліцы. Фота Цаф — Сянько

НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ

## З ЗЯМЛЯНАК У „БЛЁКІ"

Гэта вядомая справа. Гісторыя горада Гайнаўка змяшчаецца ў палавіне нашага стагоддзя. Яе нарадзіла і выгадавала багацце Белавежскай пушчы.

Раслі тады ў Гайнаўцы цэлыя вуліцы дамоў, збітых з дошак, паміж якіх (каб было цяплей) сыпалася апілкі. І гэты «люксус» не ўсім быў даступны. Многія рабочыя рабілі логава для сваіх сем'яў проста ў зямлі. Капалі зямлянкі, абкладалі іх абрэзамі дошак, якія ласкава прадавала ім дырэкцыя тартаку, і так жылі цэлымі гадамі. Апошнія сем'і перасяліліся з гэтых зямлянак у сапраўдныя дамы ўжо пасля вызвалення.

Новы, на гэты раз шчаслівы, раздзел у гісторыі горада Гайнаўка распачаўся пры народнай уладзе. Тры буйныя прамысловыя прадпрыемствы: камбінат драўлянай прамысловасці, хімічны камбінат і фабрыка пабудовы прылад для лясной прамысловасці — ствараюць асновы дабрабыту для гайнаўян.

Што гэта не пустыя словы, найлепш сведчаць факты: **на працягу дзесяці апошніх год аж 500 сем'яў з Гайнаўкі пабудавала сабе дамы — асабнякі. Апрача гэтага на дзяржаўныя грошы толькі за апошнія два гады пабудавана ў Гайнаўцы аж 710 жылых кватэр.**

Нядаўна завязалася ў Гайнаўцы спулдзельня пабудовы жылых дамоў. У спулдзельчых дамах жыве ўжо 75 сем'яў. У будучым гэтая спулдзельня мае быць асноўным пастаўшчыком даху над галавой для ўсіх гайнаўян.

У выбарчай праграме горада сказана, што на працягу бліжэйшых чатырох год Гайнаўка атрымае яшчэ кватэры для 540 сем'яў.

Тут не ўлічваецца ўласнага, індывідуальнага будаўніцтва жыхароў горада. Для яго аднак шляхам вельмі спрыяльнага крэдытавання адкрываецца ў Гайнаўцы шырокую дарогу.

Да ўсяго гэтага трэба дабавіць яшчэ і тое, што Гайнаўка ўрэшце атрымала каналізацыю і

Працяг на стар. 4

VI З'ЕЗД БГКТ

## УСЁ НАС ЯДНАЕ

(З ВЫСТУПЛЕННЯ СТАРШЫНІ ГП УГКТ МІКОЛЫ КАРОЛЬКІ)

Дарагія таварышкі і таварышы, дэлегаты VI з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Дазвольце мне ад імя ГП УГКТ і свайго ўласнага перадаць вам, а за вашым пасрэдніцтвам усім членам і сімпатыкам вашай арганізацыі нашы чыстасардэчныя братэрскія прывітанні і найлепшыя пажаданні. Кіраўніцтва УГКТ з вялікай увагай сочыць за дзейнасцю, развіццём і жыццём вашага таварыства. Вашы поспехі з'яўляюцца ў поўным сэнсе і нашымі поспехамі. Прыглядаючыся да вашай працы, стараемся ў меру нашых спецыфічных магчымасцей і ўмоў ваш вопыт прымяняць у нашай дзейнасці.

Нашы арганізацыі ў сістэме агульнапольскіх грамадскіх арганізацый, апрача супольных заданняў, маюць яшчэ свае спецыфічныя — абслугоўваць і задавальняць культурна-асветныя патрэбы нацыянальных меншасцей на роднай мове, ды замацоўваць і пагълыб-



Фота Цаф — Сянько

ляць братэрствы і дружбу польскага народа з беларускім і ўкраінскім, якія будуюць у сваіх рэспубліках камунізм.

ПАРП, верная асноўным прынцыпам ленінскай нацыянальнай палітыкі, стварае ўсе ўмовы для правільнага развіцця нацыянальнага пытання і дружнага сужыцця людзей розных нацыянальнасцей.

У вашай і нашай працы ёсць шмат супольных характэрных рыс, як і шмат супольнага ў гісторыі. Палітычнае і духоўнае жыццё нашых народаў так было з сабою зрошчана і павязана, што ўсё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў падабенстве побыту, песні, музыкі, мастацтва і літаратуры. Дзейнасць беларускіх асветнікаў першай паловы XVI стагоддзя Георгія Скарыны і яго прадаўжальнікаў: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і інш. садзейнічала развіццю ўкраінскай культуры. Старажытная беларуская і ўкраінская літа-

Працяг на стар. 4




**Адкрываем новую рубрыку. Мэта яе — адгукацца на розныя выступленні, публікацыі і пытанні, якія ўзнікаюць у жыцці і хвалююць асяроддзе. Могуць гэта быць з'явы станоўчыя і адмоўныя, ясныя і спрэчныя. Хочам рэдагаваць «Адгалоскі» як, свайго роду, свабодную трыбуну, дзе не ўсе выступленні будуць адлюстроўваць становішча рэдакцыі. Да супрацоўніцтва запрашаем усіх чытачоў. Аўтар апублікаванага водгуку атрымае нармальны ганарар публіцыста.**

* * *

Уласна кажучы, аб культурнай дзейнасці БГКТ сказана ўжо ўсё, або амаль усё. І вельмі цяжка было б да ўжо сказанага нешта дадаваць, калі б не словы тав. В. Мікульскага выказаныя на гэтую тэму на VI з'ездзе БГКТ («Ніва» ад 1 чэрвеня 1969 год, № 22). Сакратар ВК ПАРП, між іншым, выказаў такую думку: «...Аднак, здаецца мне, так прынамсі я ацэньваю, што дагэтуляшнія дасягненні Таварыства ў галіне культурнай дзейнасці, **развіцця беларускага фальклору** (падкр. маё) скромныя. ...Не ведаю, чаму таварышы не паднімаюць вострa, а я хацеў бы асабліва вострa паднясць тое, што ў дадзены момант на вёсцы гіне прыгожая традыцыя народнай беларускай песні».

Словы сакратара заахвочваюць да дыскусіі. Справы культурнай дзейнасці, а ў тым і развіццё нашага рэгіянальнага фальклору, гэта ж адзін з асноўных статутовых абавязкаў Беларускага таварыства ў Польшчы. На жаль, у гэтым напрамку не зроблена нічога, або амаль нічога.

Ці былі спробы і ці ёсць магчымасці нешта рабіць у гэтым напрамку? Пачну ад першых.

## Каб не ЗАГІНУЛА ТРАДЫЦЫЯ

У сваім часе моладзь і яе настаўнікі з вядомага аматарскага калектыву з Паўлаў, што ў Бельскім павеце, зрабілі па-мойму дасканалую рэч, а мо і адзіную ў беларускім аматарскім руху. Менавіта сабралі са сваёй вёскі аўтэнтычныя вясельныя песні, якія выконваліся на аўтэнтычнай паўлаўскай гаворцы. На колькі памятаю, усе песні былі дасканала гарманізаваны з абрадамі вяселля, якія прымяняліся ў паўлаўскай ваколіцы. Рэч была добрая, сапраўдны фальклор. Пасля нейкага часу распытваў я пра далейшы лёс гэтай праграмы.

— Распалася, — неяк бязгучна адказалі мне.

— Чаму? — спытаў я недаверліва. — Не хапіла песень ці галасоў? — зажартаваў.

— Дык не ў гэтым справа.

— А ў чым жа? — дапытваўся я.

— А там! Ці ёсць сэнс гаварыць? — марудна гаварылі.

— А ўсё ж такі!

— Простая справа. Прыехаў нейкі адзін ці двух начальнікаў з БГКТ і сказалі нам, што гэта ерунда і што мы абсалютна не павінны нікуды з гэтым паказвацца. А адзін з іх сказаў, што гэта ўсё не беларускае. Як не беларускае і

Працяг на стар. 4



Як мы ўжо паведамлялі, на Беларусі шырока адзначалася 150-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі. У святкаванні прымалі таксама ўдзел польскія артысты і кампазітары. Аб гэтым абшырны матэрыял на стар. 3. На здымку: сустрэча гасцей на радзіме вялікага польскага кампазітара (Убель, Міншчына).

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### МАСКОЎСКАЯ НАРАДА

Маскоўская Нарада камуністычных і рабочых партый па-ранейшаму знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўсяго свету. Шматлікія газеты падкрэсліваюць, што яна з'яўляецца гістарычнай сустрэчай, якая ўнясе неацэнены ўклад у гісторыю нашага часу. Друк падкрэслівае таксама, што Нарада дала ўсяму свету наглядны прыклад дэмакратыі і праходзіла ў духу ленінскіх традыцый. Як паказалі дэбаты, дэлегаты Нарады поўнасцю згодны ў галоўным — адзінства радоў з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю.

### ЧАСОВЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ЎРАД

З 6 па 8 чэрвеня ў вызваленай зоне Паўднёвага В'етнама адбыўся кангрэс прадстаўнікоў народа Паўднёвага В'етнама. У рабоце кангрэса прымалі ўдзел 88 дэлегатаў і 72 запрошаныя асобы — прадстаўнікі рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, усіх рэвалюцыйных, патрыятычных, рэлігійных, нацыянальных і грамадскіх арганізацый. Дэлегаты аднадушна прынялі асноўную рэзалюцыю кангрэса аб стварэнні Рэспублікі Паўднёвы В'етнам, аб утварэнні Часовага рэвалюцыйнага ўрада і стварэнні кансультатыўнага савета пры ўрадзе. Часовы рэвалюцыйны ўрад складаецца з 22 чалавек. Старшынёй урада назначаны Чан Нам Чунг.

### ВІЗІТ ГРАМЫКІ

Міністр замежных спраў СССР А. Грамыка наведаў Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку. Ён быў прыняты прэзідэнтам ААР Насерам і вёў перагаворы з егіпецкай дэлегацыяй на чале з міністрам замежных спраў ААР. На перагаворах абмяркоўвалася пытанне аб становішчы на Блізкім Усходзе.

### ПАМПІДУ ПРЭЗІДЭНТАМ

15 чэрвеня адбыўся другі тур прэзідэнцкіх выбараў у Францыі. Большасць галасоў здабыў кандыдат партыі галістаў Ж. Пампіду. Ён перамог Паэра і стаў прэзідэнтам Францыі. У галасаванні не прымалі ўдзелу камуністы. Камуністы і многія дэмакраты, — заявіў напярэдадні выбараў член Палітбюро ФКП Жак Дзюкло, — бачаць у адмове ад галасавання адзіны спосаб выказаць сваё асуджэнне рэжыму, які амаль не зменіцца ў выпадку выбрання любога з двух кандыдатаў. У дэмакратаў, падкрэсліў ён, не можа быць іншага выбару, бо абодва кандыдаты прадстаўляюць інтарэсы буйнай буржуазіі.

### КАМБОДЖА ПАРВАЛА ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ З ФРГ

Кіраўнік дзяржавы Камбоджы прынц Нарадом Сіянук заявіў аб разрыве дыпламатычных адносін Камбоджы з ФРГ. Гэта заява была зроблена 11 чэрвеня г.г. на рабочай нарадзе ў Пномпені, у якой прынялі ўдзел міністры камбаджыйскага ўрада і іншыя высокапастаўленыя асобы краіны.

### РАШЭННЕ ТУРЦЫІ

Турэцкі ўрад прыняў рашэнне ўстанавіць дыпламатычныя адносіны з Мангольскай Народнай Рэспублікай на ўзроўні паслоў.

Х. А.



## БССР

### МІНСКАГА

Першымі ў Беларусі дасягнулі ўзроўню прадукцыйнасці працы і выпуску прадукцыі, запланаванага на канец пяцігодкі, тэкстыльшчыкі Мінскага камвольнага камбіната. У сёлетнім годзе яны дадуць звыш шаснаццаці мільёнаў метраў больш, чым прадбачвалася атрымаць іх у 1970 годзе.

Узамен устарэлых устаноўлена 155 высокапрадукцыйных бесчаўнаковых станкоў, працуе восем аўтаматызаваных ліній.

### «НЕСЦЕРКА»

Камедыяй В. Вольскага «Несцерка» адкрыліся гастролі Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, які наведаў Гомель. У праграме гэтага тэатра: «Лявоніха» П. Данілава, «Клоп» У. Маякоўскага, дакументальная драма «Шостае ліпеня» М. Шатрова, «Варшаўская мелодыя» Л. Зорына, «Усім чарцям назло» В. Цітава, «Зыкавы» М. Горкага, «Марыя Сцюарт» Ф. Шылера.

Тэатр наведаў таксама мястэчкі і вёскі гэтай часткі Беларусі.

У Магілёве пачаў летнія гастролі Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, які пакажа трыццаць вячэрніх і шэсць дзённых спектакляў. Адначасова другая група акцёраў будзе гастраляваць у Бабруйску, Горках, Бялынічах, Шклове, Чавусах і Быхаве.

Пасля гастроляў на Магілёўшчыне купалаўцы выедуць на Піншчыну.

### ПАЛЕСКАГА

Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў рашэнне аб стварэнні Палескага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка. Куток не кранутага чалавекам Палесся патрэбны для навукі, для больш разумнага і эфектыўнага выкарыстання адвяваных у прыроды багаццяў.

Урадам Беларусі прыняты меры па захаванню ў натуральным стане таксама іншых тыповых беларускіх прыродных комплексаў. У канцы мінулага года прынята рашэнне аб стварэнні заказнікаў рэспубліканскага значэння: «Ельня» — на Віцебшчыне, «Дзікае» — на Брэстчыне, «Заазер'е» — на Магілёўшчыне. Вучоныя будуць праводзіць тут даследванні і назіранні.

### СТУДЭНЦКАЯ

У Мінску адбылася студэнцкая тэатральная вясна, арганізоўвана з мэтай папулярызацыі студэнцкіх тэатраў і развівання эстэтычных густаў у моладзі.

Высока ацэнены тэатр ценяў і тэатр сатыры Мінскага радыётэхнічнага інстытута, тэатр эстрадных мініяцюр Беларускага палітэхнічнага інстытута.

### АДРОДЖАНЫ

«Мінск — горад-Фенікс» — так называецца артыкул, апублікаваны ў часопісе «Юнайтэд нэшнс спешыал». Гэты часопіс адвёў дзве старонкі расказу аб сталіцы Беларусі. Напомніўшы, што Мінск мае 900-гадовую гісторыю, аўтар артыкула асабліва спыняецца на тых трагічных гадах, калі горад перажываў фашысцкае нашэсце.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС

У Варшаўскім доме тэхніка адбылося сімпозіум прысвечанае грамадскім паслядоўнасцям тэхнічнага прагрэсу. У сімпозіум прыняў, між іншым, удзел старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў Ігнацы Лёга-Савінскі.

### ГОСЦІ З ЧЭХАСЛАВАКІІ

У Варшаве прабывала з афіцыйным візітам урадавая гаспадарчая дэлегацыя з Чэхаславакіі пад кіраўніцтвам намесніка прэм'ера Чэхаславацкага ўрада Самуэля Фальтана.

### ПРЫЗНАННЕ

У сувязі з утварэннем Часовага рэвалюцыйнага урада Рэспублікі Паўднёвага В'етнама ўрад Польскай Народнай Рэспублікі прызнаў Часовы рэвалюцыйны ўрад Паўднёвага В'етнама адзінай аўтэнтычнай і легальнай уладай у Паўднёвым В'етнаме і пастанавіў навязаць з ім адносіны на ўзроўні пасольстваў.

### АЎТАМАТЫКА

16 чэрвеня ў Варшаве ў Палацы культуры і навукі пачаліся 6-дзённыя абрады 1500 спецыялістаў з усяго свету прысвечаныя праблемам аўтаматыкі. Пратэктарат над з'ездам мае прэм'ер Юзэф Цыранкевіч.

### СТУДЭНТЫ

У гэтым годзе ўпершыню адбудуцца студэнцкія рабочыя практыкі. Возьме ў іх, між іншым, удзел звыш 10 тысяч студэнтаў варшаўскіх вышэйшых навучальных устаноў. Будуць яны працаваць чорнарабочымі: студэнты Варшаўскага ўніверсітэта — у прамысловым будаўніцтве і камунікацыі, студэнткі — у прадпрыемствах перапробу пладоў. Студэнты з палітэхнікі працаваць будуць у камунікацыі, а студэнткі — пры жнівах і лясных работах.

### «СЫРЭНА»

16 чэрвеня варшаўская Фабрыка аўтамашын змантавала стотысячную «Сырэну». Уласцівая прадукцыя гэтых аўтамашын пачалася ў 1959 годзе. Выпрадукавана тады 3000 «Сырэнаў». У 1965 годзе прадукцыя ўзрасла да 12000, а ў 1968 годзе выпрадукавана 16 000 «Сырэнаў». Прадбачыцца, што ў наступным годзе выпрадукуецца каля 20 000 гэтых аўтамашын.

### ДЗЕЦІ АСВЕНЦІМА

У Асвенціме адбылася 2-дзённая нарада дзяцей Асвенціма — былых наймалодшых вязняў гэтага найвялікшага гітлераўскага лагера смерці. Была гэта першая такога роду сустрэча. Прынялі ў ёй удзел людзі, якія або нарадзіліся ў Асвенціме, або прыбылі туды з бацькамі, або былі адабраны сваім найбліжэйшым. Падчас нарады кусташ Музея Мартыралогіі Вязняў Т. Шыманьскі прадставіў размеры дзетазабойства ў Асвенцімскім лагеры смерці. Ад смерці выратавалася толькі невялікая група — каля 200 дзяцей, якія прынялі ўдзел у нарадзе. Удзельнікі яе выслалі тэлеграму да былога вязня Асвенціма прэм'ера Юзэфа Цыранкевіча.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОЦКІ ШКЛОЗАВОД

...урачыста адзначаў свой юбілей: 40-годдзе існавання. Шклозавод у Беластоку пачаў прадукцыю ў 1929 годзе. Была гэта невялікая прыватная фабрыка, дзе рабочыя працавалі ў вельмі цяжкіх умовах. Усё тут рабілася ўручную. Пасля вайны, калі завод пераняла дзяржава, ён быў карэнна перабудаваны. Зараз у Беластоцкім шклозаводзе працуе звыш 500 чалавек. Ён адзін з лепшых шклозаводаў у краіне, аб чым сведчыць заваяванае ім першае месца ў міжзаводскім спаборніцтве. Пяць брыгад беластоцкага шклозавода заваявала сабе званне «Брыгада сацыялістычнай працы».

У час урачыстага пасяджэння, якое адбылося з нагоды юбілею, шэсць найбольш ахвярных рабочых атрымалі Сярэбраныя і Залатыя Крыжы Заслугі.

### НАРАДА ДЫРЭКТАРАЎ

Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва супольна з куратoрыяй Беластоцкай школьнай акругі наладзілі ў Беластоку агульнадзяржаўную нараду дырэктараў педагагічных бібліятэк. Зараз гэтыя бібліятэкі маюць разам 4 мільёны тамоў розных кніжак. Яны выконваюць важную ролю ў дасканаленні педагагічных кадраў.

Пра развіццё Беластоцкай педагагічнай бібліятэкі расказаў удзельнікам нарады яе дырэктар Ян Радзюкевіч. Дырэктары педагагічных бібліятэк пабывалі ў Аўгустове і Моньках.

### МЯСЦОВАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Мясцовая прамысловасць Беластоцкага ваяводства выконвае вельмі важную ролю ў гаспадарчай актывізацыі малых гарадоў і пасёлкаў Беласточчыны. У прадпрыемствах і майстэрнях, якія згуртоўваюцца ў аб'яднанні мясцовай прамысловасці, знаходзіць працу звыш 3.500 чалавек, у тым ліку шмат жанчын.

З нагоды Дня працаўніка мясцовай прамысловасці адбылася 14 чэрвеня г.г. у Беластоку ўрачыстая акадэмія.

### ЮБІЛЕЙ БЕЛЬСКАГА ЛІЦЭЯ

Агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску Падляшскім рыхтуецца да свайго слаўнага юбілею: 50-годдзя існавання школы. Па сённяшні дзень з ліцэя выйшла амаль 1000 выпускнікоў. Займаюць яны зараз у многіх выпадках адказныя пасады ў нашай дзяржаве.

З нагоды юбілею адбудзецца ў Бельску 28—29 чэрвеня з'езд выпускнікоў бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя.

### ГАРЦЭРЫ — ВОЙСКА

Гуфцу Саюза польскіх гарцэраў з горада Беластока прысвоена званне: «Гуфець імя Салдат Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай абароны». Урачыстасць з гэтай нагоды адбылася ў Беластоку на фоне палаца Браніцкіх. Беластоцкі гуфец ЗГП атрымаў сцяг.

### СЕСІІ

Адбыліся ўжо першыя пасля выбараў сесіі павятовых рад. У Бельску старшынёю Прэзідыума ПНР выбрана Леона Пэрка, а ў Гайнаўцы Аляксандра Хілецкага.

(вр)




**Niedziela, 22. VI.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Hotel Rosja" (,,Pomnjki architektury") (Moskwa). 9.00 ,,Przypominamy, radzimy". 9.15 ,,Niebezpieczna przygoda" — film fab. ang. 10.05 Przerwa. 13.10 Program dnia. 13.15 Dziennik. 13.30 ,,Przemiany". 14.05 PKF. 14.15 ,,U rybaków" — śpiewa i tańczy zespół pieśni i tańca ,,Dalmor". 14.40 ,,Piórkiem i węglem". 15.10 Film rozrywkowy". 15.30 ,,Odepchłaś mie" — felieton TV. 15.45 Międzynarodowy Festiwal Fjlmów Krótkometrażowych. 16.20 ,,Zaczarowane koło" — program muzyczny. 17.35 ,,Polemiki". 18.25 ,,Śpiewające podwórka". 18.55 Program filmowy. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 ,,Trzecia licealna" — film fab. wł. 21.40 ,,Dean Martin przedstawia" — filmowy program rozrywkowy. 22.25 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 23.VI.**

16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Opowjeści ze świata zwierząt" — film. 17.10 ,,Echo stadionu". 17.30 ,,Najwspanialszy instrument" — film dok. węg. 17.45 ,,Kino Krótkich Filmów". 18.10 ,,Eureka". 18.40 ,,Miejsce w Europie" — (,,Polska a świat"). 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Z. Skowroński — ,,Mistrz". 21.25 Dziennik. 21.50 Film.

**Wtorek, 24.VI.**

10.00 ,,Morowa mama" — film fab. czechosł. 11.25 Przerwa. 12.45 i 16.00 Przysposobjenie Rolnicze: ,,Przed nami wakacje". 13.20 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Iskra" — film pol. 17.00 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję". 17.30 Dla młodych widzów: ,,Pokaz modeli, rakiet i samolotów" (Bukareszt). 18.00 ,,Gra Emil Gilels" — film radz. 18.30 ,,Czwarta zmiana". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 22.00 ,,Prognozy polskiej chemij". 22.25 Dziennik.

**Środa, 25.VI.**

10.00 ,,Upalne południe" — film fab. bułg. 11.20 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.00 ,,Teleferie" 18.10 TV Kurier Warszawski' 18.25 ,,Hanoi" — rep. film. z Wietnamu. 18.45 ,,Światowid". 19.20 ,,Dobranoc" 19.30 Dziennik. 19.55 ,,Co za lato" (,,Słuchamy i patrzymy"). 21.00 Koncert z Moskwy. 22.00 Dziennik. 22.15 Studio 63: S. Dygat ,,Rozmyślanja przy goleniu".

**Czwartek, 26.VI.**

16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 TV Kurier Lubelski. 17.00 Dla młodych widzów: Koncert radzieckich zespołów pionierskich — transmisja z Teatru na Wyspie w Warszawskich Łazienkach. 18.05 ,,Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 ,,Teby" — film bułg. 18.45 ,,Szlakiem Wjelkich Przemian". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Refleksje". 20.30. VII Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. Koncert inauguracyjny. W przerwie ok. 21.45 Dziennik. 23.00 Program filmowy. 23.30 VII Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. Maraton kabaretowy.

**Piątek, 27,VI.**

10.00 ,,Podróż nie z tej ziemi" — film fab. jug. 11.45 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,W cieniu bambusa" — rep. film. z Wietnamu. 17.00 TV Kurier Mazowiecki. 17.15 ,,Nie tylko dla pań". 17.40 Film rozrywkowy. 18.05 ,,Za kierownicą". 18.35 ,,Wielcy znani i njeznani". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Kontakty". 20.30 VII Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. ,,Przeboje sezonu". W przerwie ok. 21.30 ,,10 minut recenzji".

**Sobota, 28.VI.**

10.00 ,,Szczęśliwie się skończyło" — film fab. USA. 11.10 Przerwa. 16.00 Program dnia. 16.05 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Indywidualne zawody ratowników wodnych o Puchar Telewizji. 17.45 ,,6 dnj powszednich Wietnamu" — rep. film. 18.05 ,,Tele-Echo". 19.00 Wieczorne rozmowy". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 ,,Monitor". 20.10 ,,Cały w motylkach". 20.30 VII Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. Koncert premier Opola. W przerwie ok. 21.45 Dziennik i Wiadomości sportowe. Po transmisji ok. 23.00 ,,Szęśliwie się skończyło" — fjlm fab. USA. 0.15 VII Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. ,,Polskie Nagrania prezentują".




**Piątek, 20 czerwca**

8.00 Nowiny. 8.15 ,,Cuda przyrody". 8.30 ,,Wiedza". 9.00 ,,Gdzie był Lenin". 9.30 Dla uczniów. 13.55 Program dnia. 14.00 Ekran — maturzystom. 15.00 Nowiny. 15.15 Zasłużony działacz sztuki BSRR R. Kudrewicz. 15.45 ,,Na czele walki antyjmperialistycznej". 16.00 ,,Panorama nowin". 16.15 ,,Obsługa mieszkańców". Konferencja prasowa. 17.00 ,,Iwan Makarowicz". Film fab. 18.30 ,,Sztafeta nowin". 19.15 Międzynarodowy konkurs artystów baletu w Moskwie. 20.15 O pracy okręgowych stacji doświadczalnych. 20.45 Komentarz dnia. 21.00 ,,Ziemia białoruska — partyzancki kraj". Koncert.

**Sobota, 21 czerwca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Reforma gospodarcza w działaniu". 9.00 Życie tańca". 10.00 ,,Wiedza". 10.30 Komentarz dnia. 10.45 ,,Kontrolerzy ludowi". 11.30 ,,Szkatułka muzyczna". 11.45 ,,Na czele walki antyimperjalistycznej". 12.00 Dla dzieci. 12.25 ,,Kronika pięciolatki". 13.00 Spektakl teatralny. 15.30 ,,Klub wiejski". 16.30 Nowiny. 16.45 Seryjny film TV. 18.15 ,,Świat socjalizmu". 18.45 Międzynarodowy konkurs artystów baletu w Moskwie. 20.00 ,,Dziennikarz". Film fab. I seria.

**Niedziela, 22 czerwca**

8.00 ,,Kiosk muzyczny". 8.30 Twierdza brzeska. 9.00 ,,Poszukiwacze". 9.50 ,,Na czele walki antyimperialistycznej". 10.00 ,,Projekt ,,Oś-T". 10.30 ,,Godzina wiejska". 11.30 Reportaż z Politechniki Białoruskiej. 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 ,,Sztafeta Leninowska". 13.00 S. Aloszyn. ,,Każdemu swoje". Spektakl teatralny. 15.15 ,,Bohaterstwo". 15.45 ,,Dziennikarz". Film fab. II seria. 18.00 ,,Sjedem dni". 18.45 Międzynarodowy konkurs artystów baletu w Moskwie. 20.00 W eterze ,,Młodość". 21.00 ,,Tydzień sportowy".

# Сімвал вечнай дружбы

**(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА)**

Грамадскасць Савецкай Беларусі шырока адзначыла 150-годдзе з дня нараджэння класіка польскай музыкі, заснавальніка польскай нацыянальнай оперы Станіслава Манюшкі.

Імя Станіслава Манюшкі дарагое і блізкае савецкім людзям. Беларускі народ жывіць вялікае пачуццё павагі да чарадзея польскай музыкі, бо на беларускай зямлі нарадзіўся вялікі кампазітар. Ён адыграў вялікую ролю ў развіцці не толькі польскай, але і беларускай музыкі, таму што шматлікія яго творыназеяны беларускім народным песенным фальклорам.

У Беларусі з 4 па 12 мая г.г. быў праведзены фестываль музыкі, прысвечаны Станіславу Манюшку. У ім узялі ўдзел Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўны народны аркестр БССР, Дзяржаўны ансамбль песні і танца ПНР «Шлёнск», лаўрэаты Міжнароднага конкурсу піяністы Галіна Чэрны-Стэфаньская (ПНР) і Валерый Шацкі, канцэртна-лекцыйныя групы Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вядучыя артысты Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. У час фестывалю ў гарадах і вёсках нашай рэспублікі было арганізавана 47 канцэртаў.

Для ўдзелу ў фестывалі ў Беларусь прыбылі дэлегацыі Саюза кампазітараў ПНР — прафесар Стэфан Следзінскі, доктар Эльжбета Дэмбоўская, доктар Мар'ян Фукс, Ежы Младзнеўскі, Кшыштаф Мазур; дэлегацыя Варшаўскага ваяводства праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы — Войцех Вардэцкі, Аляксандр Пшывінскі, Чэслаў Тарчынскі і Першы сакратар пасольства ПНР у СССР Роман Дмоўскі.

Урачыстае адкрыццё фестывалю адбылося 4 мая на месцы былога фальварка Убель Чэрвеньскага раёна, дзе нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады вялікі кампазітар.

Каля мемарыяльнай дошкі ўстаноўленай на месцы дома, сабраліся на ўрачыстае адкрыццё прадстаўнікі музычнай грамадскасці рэспублікі і шматлікія жыхары пабліскіх вёсак. Мітынг адкрыў першы сакратар Чэрвеньскага райкома партыі Н. Крот. Гасцей цёпла вітаў народны артыст СССР Генадзій Цітовіч. Аб дружбе польскага і савецкага народаў гаварыў у сваім выступленні Стэфан Следзінскі: «Нас глыбока ўсхвалявала тое, што для беларусаў Манюшка не толькі вялікі польскі кампазітар, але і зямляк, і яго музыка блізкая беларускаму народу таксама, як і польскаму. Калі музыка садзейнічае збліжэнню народаў, значыць роля яе куды шырэйшая, чым толькі эстэтычная».



**Складанне кветак пад мемарыяльнай дошкай ва Убелі.**




**Прэзідыум урачыстага сходу, прысвечанага С. Манюшку ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

Пасля ўрачыстага адкрыцця фестывалю вучні васьмігадовай школы запрасілі гасцей у музей Станіслава Манюшкі, адкрыццё якога было прыстасавана да 150-годдзя з дня нараджэння кампазітара. У музеі сабраны шматлікія экспанаты, якія расказваюць аб жыцці і шляху кампазітара, ёсць фанатэка з запісамі твораў Станіслава Манюшкі ў выкананні найлепшых салістаў і калектываў СССР, ПНР і іншых краін.



**У музеі школы.**

У клубе рыбсаўгаса «Волма» адбыўся вялікі канцэрт. Артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі выканалі арыі з опер «Галька», «Страшны двор», творы Шапэна і Агінскага, польскія і беларускія народныя песні. Цёпла сустрэлі прысутныя новую кантату беларускага кампазітара Генрыха Вагнера «Убельскія таполі», якая прысвячаецца памяці Станіслава Манюшкі.

5 мая госці прысутнічалі на вечары ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага. З дакладам «Станіслаў Манюшка — выдатны польскі кампазітар» — выступіла кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Куляшова.

6 мая ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся ўрачысты вечар грамадскасці Мінска, прысвечаны гэтай знамянальнай даце. У прэзідыуме сабраліся прадстаўнікі музычнай грамадскасці Мінска, вядомыя пісьменнікі Беларусі, прадстаўнікі партыйных і савецкіх органаў. Урачысты вечар адкрыў міністр культуры БССР Міхаіл Мінкевіч.

З усхваляванымі словамі аб жыццёвым і творчым шляху Станіслава Манюшкі, аб руска-беларуска-польскіх музыкальных сувязях выступіў народны артыст СССР, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР Рыгор Шырма. У сваім выступленні ён сказаў:

«Беларуская зямля шматлікія гады была калыскай, дзе выраслі вялікія прадстаўнікі польскай культуры. На нашай зямлі нарадзіўся нацыянальны герой Польшчы, палымяны змагар за свабоду Тадэуш Касцюшка; у Навагрудку расцвіла муза Адама Міцкевіча, геніяльнага паэта, з дзяцінства выхаванага жыватворчымі сокамі беларускай народнай паэзіі і прыгажосцю прыроды і ваколіцы возера Свіцязь; у Гродне нарадзілася і правяла ўсё сваё жыццё, ствараючы свае цудоўныя раманы і аповесці Эліза Ажэшка; у Маладзечанскай вобласці нарадзіўся і правёў раннія гады свайго жыцця Мечыслаў Карловіч, якому з дзяцінства запалі ў душу беларускія мелодыі, якія з яркай сілай прагучалі ў яго сімфанічнай рапсодыі. На нашай Міншчыне нарадзіўся Станіслаў Манюшка, тут рос і развіваўся яго талент. Гэтыя прадстаўнікі польскага мастацтва плацілі беларускай зямлі і яе народу вялікай любоўю і прызнаннем».

У адказ выступіў старшыня Саюза кампазітараў ПНР Стэфан Следзінскі. «Станіслаў Манюшка, — сказаў ён, — нарадзіўся тут, і свае першыя ўражанні ён атрымаў ад вашай зямлі, ад яе народнай музыкі. Усе мы глыбока ўзрушаны тым, як шырока арганізаваны фестываль музыкі, тым, што мы бачылі і чулі за гэтыя дні, і мы глыбока ўдзячны за гэта беларускаму народу».

Потым адбыўся вялікі канцэрт, у якім былі выкананы творы Станіслава Манюшкі.

Фестываль музыкі, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Станіслава Манюшкі, яшчэ раз паказаў, што музыка, якая заўсёды раскрывае душу народа і ў дні святкавання яшчэ раз прагучала поўным голасам, з'явілася сімвалам нашай вечнай дружбы.

У дні фестывалю Беларускае тэлебачанне і радыё арганізавалі серыю перадач, прысвечаных Станіславу Манюшку: музыка з яго твораў, арыі з опер і дзве спецыяльныя праграмы «Наш вялікі зямляк» і «Валадар гукаў». На старонках газет змяшчаліся артыкулы аб жыцці і творчым шляху Станіслава Манюшкі, аб беларуска-польскіх музыкальных сувязях.

Фестываль быў арганізаваны Міністэрствам культуры БССР, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Саюзам кампазітараў БССР.

**В. Смірноў**

Старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі

**Саліст Белдзяржфілармоніі С. Машкоў выконвае песню «Убельскія таполі» кампазітара Генрыха Вагнера, прысвечаную С. Манюшку.**



**У канцэртнай зале.**



**У БЕЛАСТОЦКІХ СТУДЭНТАЎ**

**Сцэна з «Ляманту» Т. Ружэвіча ў пастаноўцы мастацкага калектыву студэнтаў Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку. Пастаноўка адбылася ва ўласным студэнцкім клубе «Пратон».**

**Фота Цаф — Сянько**

Да ведама ліцэістаў I і II класаў

# БЕЗ УСТУПНЫХ ЭКЗАМЕНАЎ

**У апошнім часе Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі паінфармавала аб магчымасці пераходу вучняў з агульнаадукацыйных ліцэяў у прафесіянальныя школы. А вось інфармацыі.**

**Вучні, якія ў чэрвені г.г. закончаць I клас агульнаадукацыйнага ліцэя і адмовяцца ад далейшай навукі ў ліцэі, могуць старацца аб прыём у II клас усіх асноўных прафесіянальных школ (zasadniczych szkół zawodowych), а таксама ва ўсе прафесіянальныя (zawodowe) тэхнікумы, у залежнасці ад сваіх схільнасцей да навукі.**

**Калі разыходзіцца пра вучняў, якія закончаць II клас агульнаадукацыйнага ліцэя і хочуць мець прафесію, маюць да выбару дзве дарогі: аднагадовыя асноўныя прафесіянальныя школы (ZSZ) або трохгадовыя тэхнікумы.**

**Вучні з закончаным I і II класамі агульнаадукацыйнага ліцэя будуць прыняты ў прафесіянальныя школы, аб якіх вышэй мова, без уступных экзаменаў. У часе навукі вучні папоўняць свае прафесіянальныя і агульныя веды, калі будзе такая патрэба. Школы прыдуць ім у гэтым з выдатнай дапамогай.** **(ак)**

Размова з гайнаўскімі лекарамі

# ВЯСКОВАМУ ЛЕКАРУ ТРЭБА САМАХОД

Сабраліся ў Ваяводскай станцыі санітарна-эпідэміялагічнай у Беластоку лекары з паветаў, каб падзяліцца вопытам з апошняй акцыі прышчэпак супраць заразных хвароб і перш за ўсё Гайне-Медыны.

Перадавымі паветамі ў гэтай акцыі аказаліся: Саколка, — тут асабістыя вялікія заслугі палажыў кіраўнік Аддзела здароўя — Ян Чаўш, таксама паветы — Беластоцкі, Гайнаўскі, Бельскі, Лапскі, Алецкі і горад Беласток. У названых паветах добра працавалі каардынацыйныя камісіі па справах прышчэпак. Добрая праца праявілася ў тым, што ва ўсім ваяводстве ў першым квартале 1969 года не было ніводнага выпадку смерці на заразную хваробу. Прыгожыя гэта дасягненні нашай службы здароўя, і асабліва павятовай і вясковай службы здароўя.

З нагоды ўспомненай нарады я прысела да групы лекараў з Гайнаўкі. Былі: **Пантэлеан Мораз** — кіраўнік аддзела здароўя, **Люцыян Рачкоўскі** — павятовы інспектар педыятрыі, **Дзмітры Васілеўскі** — кіраўнік супрацьтуберкулёзнай павятовай амбулаторыі і **Ян Янюк** — кіраўнік акруговай амбулаторыі.

Размова была аб здароўі і ў прыватнасці гаварылі мы аб сітуацыі і вясковых лекарах у Гайнаўскім павеце.

Др Л. Рачкоўскі — найбольшым недахопам у педыятрыі з'яўляецца школьная гігіена. Яна дагэтуль зводзіцца да таго, каб дзіця зважыць, змерыць, сказаць пару слоў, што трэба быць чыстым. У сапраўднасці трэба ствараць умовы для ўсебаковага правільнага фізічнага развіцця дзіцяці, а таксама для яго псіхічнага развіцця. У гэтым неабходнае супрацоўніцтва педагога, педыятры, псіхолага і сацыёлага. Многа і пастаянна трэба працаваць з бацькамі дзіцяці. Трэба даць дзіцяці ўзор. Хто ім будзе? Бацька, маці, настаўнік. Увогуле ўсе людзі павінны паміж сабой спаборнічаць, кожны павінен хацець быць такім узорам.

Др М. Мораз — вясковаму лекару неабходны самаход. Гэта ніякі яму люксус. Гэта залог яго добрай працы на вёсцы. Змог бы ён з самаходам лепш і хутчэй, спраўней даехаць да школы, да вёскі, да хаты. У нашым павеце дру **Аляксандру Мальцу** ў Кляшчэлях удалося купіць самаход. І ён выконвае ім ролю хуткай дапамогі на сваёй тэрыторыі. Сваім уласным самаходам забірае хворых і прывозіць іх у бальніцу.

Др Д. Васілеўскі — лекар ахвотна пойдзе на вёску, калі будуць створаны яму больш цікавыя ўмовы для яго працы. Калі ён сваімі ведамі зможа лепш служыць людзям.

Др Л. Рачкоўскі — я б адразу лекару, які ідзе на вёску, даў прыдзел на самаход на раты. Ён яму, паверце мне, не патрэбен, каб ездзіць на таварыскія візіты ў горад. Вясковаму лекару самаход патрэбен да працы на вёсцы.

✻

Доктар Аляксандр Малец з'яўляецца лекарам у Кляшчэлях з доўгім ужо стажам і абсалютным адданнем справам вёскі і яе здароўю. Вядомы ў акрузе як верны і непадкупны чалавек-лекар. Шчаслівы, што мае самаход і можа лепш лячыць, і хутчэй.

Гайнаўскі павет дачакаўся іншых лекараў, якія прыйшлі ў вёскі і асады павета. Пачалі працу часта ад пачатку, а зараз ужо можам гаварыць аб іх добрых выніках. Вось Нарва з маладой лекаркай **Софіяй Нарэль.** Даўней тут была найбольшая ў павеце смяротнасць сярод новнароджаных. Ад некалькіх год працы С. Нарэль не здарыўся ніводзін такі выпадак.

Малады, добры лекар прыйшоў у Белавежу: **Леаніла Нядзельская-Бурак.**

У добрых руках знайшлося здароўе Нараўкі і ваколіц, калі прыйшоў сюды **Яўгені Сухаверскі** з Беластока.

✻

Др П. Мораз — лекару кожнаму, і асабліва цяжка працуючаму вясковаму лекару, патрэбнае добрае слова. Мы ведаем, што да нашага абавязку належаць выезды на кожны кліч хворага, недаспаныя ночы, працавітыя нядзелі і святы. Але мы чакаем за гэта на добрае слова, нам яно вельмі патрэбнае.

**Вера Леўчук**

# Шклярні і інспекты

Яшчэ некалькі гадоў таму назад было немагчымым у нас купіць узіму зялёную цыбулю ці іншую агародніну. Гэта вынікала з вельмі слабога развіцця і адсутнасці інспектаў ды шклярняў. У сучасны момант гэтае пытанне ўжо набыло пэўнага вырашэння. На працягу пяці год будзе пабудавана на Беласточчыне 213 тысяч квадратных метраў інспектаў і шклярняў. Гэта амаль утрая больш, чым пабудавана іх за ўвесь дагэтуляшні час. Нарэшце перастанем наракаць на недахоп вітамінаў у глыбокую зіму. (ся)

# „Халупы"

У сувязі з тым, што ва ўсходняй частцы Беластоцкага павета амаль не існуюць кадравыя магчымасці развіцця рамяства, ўлады вырашылі звярнуць асаблівую ўвагу на папулярызацыю рукадзелля, званага халупамі. Справа ў тым, што рукадзеллем могуць займацца жанчыны ў перапынках паміж сваімі хатнімі штодзённымі заняткамі. Дасць гэта досыць істотную фінансавую падмогу гаспадаркам, прынамсі, у пакрыванні дробных выдаткаў быту.

Такая палітыка вынікае таксама з недахопу мужчынскай працоўнай сілы з аднаго боку і недахопу заробкаў жанчынам на малых гаспадарках з другога боку. Праблема працы жанчынам усё яшчэ чакае паслядоўнага вырашэння. Напрыклад, у Чорнай Беластоцкай каля сарака жанчын вучыцца шавецкага рамяства. Першая прадукцыя шаўцоў-жанчын аказалася ў нічым не горшай. (ся)

# КАМАРОВАЯ ГАРА — ЧЭРВЕНЬ, 1941 Г.

22 чэрвеня, 1941 год. У гісторыі дзень гэты запісаўся крывавымі старонкамі. Колькі ахвяр прыняла беластоцкая зямля ў першыя дні вайны, палічыць цяжка. Баі ішлі на ўсёй тагачаснай граніцы. Адным з іх быў бой на Камаровай гары. Камаровая гара знаходзіцца ў двух кіламетрах ад Плёскаў, над ракой Нарвай, Бельскага павета. Аб тым, як ішоў бой, расказваюць жыхары вёскі.

З захаду адступалі савецкія войскі. Ехалі машыны, ішлі калоны пешых. Усюды адчувалася паспешнасць. Салдаты былі змучаны, засыпаныя пылам, ішлі ў панурым маўчанні. Увечары 23 чэрвеня апошняя часць, якая асланяла адступленне, акапалася на заходнім схіле Камаровай гары. Было каля тысячы салдат. Часць мела таксама танкі. Колькі іх было, дакладна ніхто не ведае.

Немцы з'явіліся на другі дзень. На матацыклах, аўтамашынах, фанабэрыста гналіся наперад. Яны былі пэўныя сваёй сілы. За імі цягнуліся танкі. Затрымаліся, каб знішчыць «перашкоду» ў лесе, на заходнім беразе Нарвы. Не патрабавалі дакладна акопвацца, іх даскaнала засланяў малады сасоннік. Немцы дакладна бачылі сілы праціўніка і дакладна падрыхтаваліся да іх знішчэння.

Поўныя напружання дзень і ноч 24 чэрвеня прайшлі спакойна. Недзе далёка грымелі выбухі.

Бой пачаўся ў 6 гадзін раніцы 25 чэрвеня. Немцы першыя павялі ўраганны агонь па рускіх акопах. Ім адгукнуліся з Камаровай гары. Страляніна працягвалася. Асуджаныя на смерць савецкія воіны не здаваліся. Танкі разпораз ішлі ў атаку. Адзін з іх тройчы падыходзіў амаль да самых нямецкіх пазіцый, за кожным разам ззяючы сталлю па ворагу. За чацвёртым разам, калі спускаўся ў атаку, варожы снарад трапіў у бок. Танк загарэўся.

У адзінаццаць гадзін бой закончыўся. Фашысты перамаглі. Па-варварску пакончыўшы з раненымі, пайшлі далей.

Вобраз, які прадстаўляла Камаровая гара, быў жудасны. Байцы ляжалі адзін на другім, пакрываўленыя, абгарэлыя, пашарпаныя асколкамі. Усюды была кроў, страшэнныя раны. Так плацілі савецкія салдаты за свабоду сваёй Радзімы. Некалькі дзён ляжалі яны, угледаючыся мёртвымі вачыма ў шэрую ваду Нарвы, аж усіх сабралі і недзе вывезлі. Астаўся толькі абгарэлы танк. Праз два тыдні захопнікі прыгналі яўрэяў ладзіць шашу. З танка разыходзіўся нядобры пах раскладаючагася цела. Пад вінтоўкамі яўрэі вынялі абвугленае цела танкіста. Яго закапалі на Камаровай гары.

Так канчаецца вестка аб адной з многіх трагедый сусветнай вайны.

**Вераніка Леанюк**
Плёскі

ча польска-беларускай культуры. Гэта вельмі істотная і важная справа.

Таварыш Сідаровіч гаварыў аб хоры. Гэтая справа абмяркоўвалася ў нас на справаздачна-выбарчай канферэнцыі. Ёсць цяжкасці. Але трэба яшчэ раз да яе вярнуцца. Можа ўдасца нам заснаваць хор.

# НАВЕДВАЦЬ ДОБРЫЯ І НЕ ЗАБЫВАЦЬ ДРЭННЫХ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА ДУБРОЎСКАГА АДДЗЕЛА АЛЯКСАНДРА КАЛЕНІКА)**

Не вельмі прыемна выступаць, з'яўляючыся прадстаўніком аддзела, які займае апошняе месца. Але факт з'яўляецца фактам. І нідзе тут не схаваешся. Трэба спадзявацца, што супольнымі сіламі ўдасца нам знайсці прычыны дрэннай працы нашага аддзела і памагчы яму стаць хоць нараўні з іншымі. Як многім вядома, Дуброўскі аддзел не мае штатнага працаўніка і няма каму разгарнуць гэту працу. Хоць не вядома, ці штатны працаўнік ураставаў бы тут становішча. Да такой работы не хопіць дастаць толькі грошы, тут трэба мець замілаванне, сэрца, здольнасці. А такіх людзей у нас не аказалася. Спадзяванне на працаўнікоў ГП не дало надта добрых вынікаў. Працаўнікі ГП рэдка нас наведвалі, а калі гэта здаралася — не лёгка было сабраць сход, каб абмеркаваць адпаведныя справы. Не лёгка ў нас сабраць сход. На гэта трэба выкарыстоўваць такія моманты, як дэманстрацыя фільмаў, выступленні «Лявонiхі» і т.п. Напэўна ў іншых аддзелах гэта адбываецца лепш і туды больш ахвотна даязджаюць працаўнікі ГП. А гэта не зусім добра. Добры гурток, ці аддзел, і так добры. Трэба больш звяртаць увагі на слабыя. Я не хачу сказаць, што не трэба наведваць добрых гурткоў ці аддзелаў. Трэба наведваць добрыя і не забываць дрэнных. Хіба ўсім вядома, што вясковае насельніцтва мала звяртае ўвагі на сход, які праводзіць іх аднавясковец, хоць ён робіць гэта як найлепш. Зусім інакш, калі прыедзе нехта чужы, нехта больш важны. А адносіны да Беларускага таварыства ў нашым насельніцтве добрыя. Гэта заўважаецца, калі наведвае нас «Лявоніха». Пасля яе канцэрта некалькі дзён працягваецца дыскусія і напяваюцца запамятаныя песні.



Фота Цаф — Сянько

Свайго часу ў нашай грамадскай святліцы сабраўшыеся аглядалі па тэлевізіі фільм «Людзі на балоце». А потым у бібліятэцы з'явілася кніжка пад гэтым самым загалоўкам. Як пайшла яна ў людзі, дык я не мог скеміць, колькі чытачоў з яе скарыстала: яна не вярталася ў бібліятэку, пераходзіла з рук у рукі. Былі і такія, што на ёй навучыліся чытаць па-беларуску. Бібліятэка нашага аддзела налічвае некалькі соцен тамоў, аднак чытачамі пахваліцца не можна. Карыстаюць з яе пераважна старэйшыя. Моладзь наша не асабліва горнецца да беларускага. Яна лічыць, што ў беларускім замала сучаснасці, там усё старына.

Мне здаецца, што на ўсё павінна быць адпаведнае месца, і ўсё трэба ўмець адпаведна прымаць.

Спадзяюся, што з новавыбраным Галоўным праўленнем удасца нам наладзіць працу нашага аддзела і апошняе месца не будзе належыць да нас.

# ТРЫБУНА чытачоў

## 50-АЯ ГАДАВІНА ГІМНАЗІІ

Агульнаадукацыйны ліцэй імя Т. Касцюшкі ў мінулым гімназія ў Бельску Падляшскім у гэтым годзе адзначае 50-тую гадавіну свайго існавання. Ад восені мінулага года на будынку гэтага ліцэя віднее ўмураваная памятная дошка, якая інфармуе, што былы выхаванак гэтай школы капітан Уладзіслаў Высоцкі — герой СССР загінуў у бітве пад Леніна.

28 і 29 чэрвеня адбудзецца з'езд выхаванкаў гэтай школы. На ім, між іншым, будзе ўручаны школе сцяг ад насельніцтва і выпускнікоў.

**В. Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## ГРАМАДСКІ ЧЫН У ДУБІНАХ

Бацькоўскі камітэт пры школе ў Дубінах (Гайнаўскі павет) пастанавіў пабудаваць для школы варштатова- гаспадарчы будынак. Кошт такога памяшкання 204 тыс. зл. Дагэтуль зроблена дакументацыю, фундаменты, вокны, дзверы і 7500 штук пустакаў, залясавана вапну, звезена жвір, закуплена больш цэглы і цэменту.

Вартасць грамадскіх прац і будаўляных матэрыялаў складае суму 66 391 зл. Пры пабудове прышкольнага памяшкання працуюць жыхары Дубін і акалічных вёсак.

Грамадскі чын выконваецца ў гонар V з'езда ПАРП і 25-годдзя ПНР.

**Янка Цялушэцкі**

## КУЛЬТУРА Ў ОРЛІ

Культурнае жыццё ў Орлі развіваецца вельмі слаба. Што праўда, ёсць тут клуб «Рух» і бібліятэка, аднак гэтага замала. Віна ў жыхароў Орлі, якія мала прысвячаюць увагі гэтай справе, а таксама ГРН і тутэйшых прамысловых прадпрыемстваў. Пару слоў варта прысвяціць гуртку ЛьЗС. Члены гуртка грамадскім чынам пабудавалі спартыўную пляцоўку. Выязджаюць на спартыўныя гульні ў розныя раёны ваяводства. ЛЬЗС-аўцы наракаюць аднак на брак зацікаўлення і дапамогі з боку бетанярні і кафлярні, якія маюць бюджэт на культурную дзейнасць для сваіх працаўнікоў, але яго належна не выкарыстоўваюць.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы

## НОВЫЯ КЛУБЫ

Клуба-кавярні «Рух» сталіся цэнтрамі культурна - асветнай дзейнасці на вёсцы. Апошнім часам новыя такія клубы адкрыты ў мясцовасцях Філіпы і Студзіводы на Бельшчыне.

**Ф. В.**
Бельск

## УЗНАГАРОДЫ ВУЧНЯМ

У кастрычніку мінулага года з нагоды «месяца ашчаднасці» Паўшэхная каса ашчаднасці ў паразумленні з Міністэрствам культуры і мастацтва аб'явілі конкурс вучняў мастацкіх ліцэяў на выкананне праекта плаката, які распаўсюджваў бы ідэю ашчаднасці і ПКО.

З існуючых у краіне 22 мастацкіх ліцэяў уплыло на конкурс 504 працы, у тым 6 прац вучняў з ліцэя ў Супраслі. Конкурсная камісія адзначыла, між іншым, 4 працы вучняў з Супраслі і прызнала ім рэчавыя ўзнагароды.

Супрасльскім вучням Рышарду Віхэру, Яўгеніі Яскулцы, Чэславе Давідовіч і Рыгору Клімовічу ўзнагароды ўручыў Юзэф Вількевіч — дырэктар ПКО ў Беластоку. (мс)




**Дарагое Сэрцайка!**

Кожны раз чытаю твае парады ў «Ніве». Рашыла і я напісаць да цябе. Вось ужо канчаю тэхнічную сярэднюю школу, маю 18 год. Але вось бяда. Мяне перастала цікавіць мая прафесія. Я хацела б быць артысткай. Хацела б вельмі «іграць» у тэатры і да гэтага, мне здаецца, маю трохі здольнасцей. Іграю, і то пераважна галоўныя ролі, у аматарскім гуртку, але што патрэбна, каб іграць у тэатры, у сапраўдным тэатры. Куды пісаць, як паступіць у тэатр?

За параду буду вельмі ўдзячна.

**Галіна з Бельшчыны**

**Галінка!** Калі ты так моцна цікавішся акцёрствам, дык можаш жа, як і дагэтуль, іграць у аматарскім гуртку. Тут можаш паказаць усе свае здольнасці і адначасова заспакоіць свае імкненні. Быць артысткай — гэта мара амаль усіх маладых дзяўчат. Аднак яна хутка мінае, калі яны скончаць школы, пачнуць працаваць і больш аб'ектыўна глядзець на жыццё. А цяпер адкажу на галоўнае тваё пытанне. Каб працаваць у тэатры артысткай, трэба мець скончаную вышэйшую артыстычную школу — у адпаведнім напрамку (акцёрства). А каб паступіць у гэтую школу, трэба мець сярэднюю адукацыю. Аднак, вельмі цяжка там дастацца, трэба мець сапраўды вялікія здольнасці. А і прафесія артысткі — таксама вельмі цяжкая.

**Сэрцайка**

## У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

**За праграму Фронту адзінства народа**



Выбары ў сейм і рады нарадовыя — важная падзея ў нашым жыцці. У грамадзе Дубічы Царкоўныя сяляне з асаблівай пашанай і патрыятызмам адзначалі выбары.

У дзень выбараў у Дубічах Царкоўных з самай раніцы каля святліцы было ўжо людна. Людзі стаялі ў чарзе, каб аддаць свае галасы. Найбольш тут было маладых выбаршчыкаў, якія першы раз галасавалі. Члены выбарчай камісіі традыцыйна адзначылі пачатак выбараў. Ул. Несцярук уручыў букет кветак для першага выбаршчыка Уладзіміра Зубра, другой была маладая дзяўчына (першы раз прымала ўдзел у галасаванні) Надзя Дзідзюк. Відаць было яе хваляванне, калі брала выбарчыя карткі ў свае рукі.

З вёскі Грабавец першым выбаршчыкам быў 93-гадовы грам. Антон Панасюк.

Вёска Дубічы і яе жыхары выглядалі ў гэты дзень святочна і ўрачыста. Галасаванне праходзіла спраўна і хутка.

Многа папрацавалі ў падрыхтоўцы да выбараў: старшыня выбарчай камісіі Мікалай Гарасімюк, члены Насця Панфілюк, Мікалай Чыквін і інш.

Фота: Уладзімір Несцярук

### За лепшы ўраджай

На палетках грамады Дубічы Царкоўныя нядаўна праводзілася хімічная барацьба з пустазеллем. Сродкі распырскваліся па ўсім яравым збожжы, а таксама на азімай пшаніцы. Аб вялікім размаху такой карыснай і неабходнай работы можа сведчыць той факт, што ўсе трактары дубіцкага і тафілаўскага сельгасгуртка былі заняты пры гэтым. Працай кіраваў мясцовы аграном Анатоль Патэюк.

### Школьны агарод

Школа ў Дубічах Царкоўных мае свой уласны агарод. Нядаўна кіпела тут работа. Пасаджана многа бульбы і іншых культур.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ФЕСТЫН У СЕМЯНОЎЦЫ

22-га чэрвеня Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізуе фестын прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы.

Варта тут адзначыць вельмі цікавую і багатую праграму фестыну. Пасля афіцыйнай часткі пачнецца мастацкая. Выступяць там: мастацкі калектыў з Гарадка, эстрада ГП «Лявоніха», харавая група з Гайнаўкі і эстрадны калектыў з Арэшкава. Апрача гэтага будуць арганізаваны «Згадуй-згадуля», кніжная латарэя і паказ моды. Пасля ўсяго гэтага пачнецца народнае гулянне пад гукі аркестра. ГС з Нараўкі забяспечыць удзельнікаў фестыну харчовымі прадуктамі і шматлікімі ласункамі, як марожанае, цукеркі, шакалад і т.д.

Урачыстасць пачнецца ў 11 гадзін. (мх)

## НАША КАРЭСПАНДЭНТКА



В. Леанюк часта ў «Трыбуне чытачоў» змяшчала свае карэспандэнцыі з жыцця беларускага ліцэя ў Бельску. Сёлета яна яго заканчвае (на здымку В. Леанюк у час пісьмовых экзаменаў). Жадаем ёй поспехаў у новым асяроддзі, а бельскаму ліцэю — новай, такой жа добрай, карэспандэнткі «Нівы». Маем таксама надзею, што сувязь з рэдакцыяй В. Леанюк не спыніцца з заканчэннем ліцэя. Сёння друкуем карэспандэнцыю В. Леанюк «Камаровая гара. Чэрвень, 1941 год» у сярэдзіне нумара.

Фота А. Карпюк.

---

начасова азірнуліся. Што перадаецца ў такі момант ад чалавека да чалавека? Інтуіцыя? Падсвядомае пачуццё? Хто яго ведае... Але як самыя блізкія, як «свае» — а слова гэтае ў той час мела толькі адно, зусім пэўнае адценне, ішлі ўжо яны адно насустрач другому.

— Г-галубачка! Як я рады, што вы жывая. Дзе вы, што, як? І пазней, на развітанне ўжо:

— Я вельмі прашу вас, галубачка, калі пачуеце, што новага на фронце, як там нашы, паведаміце мяне. Я толькі гэтым і жыву.

«Галубачка», «душачка»... Ён застаўся, здаецца, такім, якім быў. Яўгень Уладзіміравіч, з гэтымі сваімі характэрнымі, вядомымі ўсяму гораду слоўцамі. Яшчэ некалі студэнты на іх курсе жартам пераймалі яго — злёгку заікаючыся, гаварылі сваім аднакурсніцам:

— Д-душачка! Г-галубачка! Падкінь ш-шпаргалачку.

Падпольшчыкаў вельмі зацікавіла сустрэча «Белкі» з Клумавым. «Нам патрэбен, вельмі патрэбен такі чалавек, разумееш «Белка», — горача гаварыў «Слаўка» і церабіў сваю кучаравую чупрыну. І «Белка» разумела: значыць, у гэтай гарачай галаве выспяваюць планы, значыць, трэба зноў ісці на сувязь.

«...Я прыйшла ў іх маленькі пакой пры бальніцы. Так і так, кажу, Яўгень Уладзіміравіч, паслала мяне падпольная партыйная група. З вамі хочуць сустрэцца члены камітэта. Вы згодны?

Якая гэта была радасць для яго, якая радасць!

— Галечка! Галечка! — клікаў ён жонку. — Хутчэй хадзі сюды! Ведаеш, аказваецца, ёсць падпольная арганізацыя. Я так і думаў, што яна павінна быць!

З-за перагародкі выйшла Галіна Мікалаеўна.

— Гэта вы, Людміла Міхайлаўна! А я чую знаёмы голас, толькі падглядаць няёмка. Я вельмі рада вам. І вашай навіне».

З бальніцы яны выйшлі разам: прафесара, маўляў, запрасілі наведаць хворую... Потым Людміла адарвалася крокаў на дваццаць, а Яўгень Уладзіміравіч, свяціла навукі, выдатны хірург і вядомы ў шырокіх медыцынскіх колах спецыяліст па гінекалогіі, пачаў ужо «з ходу» пасцігаць азы канспірацыі; ён крочыў за Людмілай паводдаль, не выпускаючы ні на адну хвіліну з поля зроку... На Каменнай вуліцы (цяпер — Варнянская) у доме № 12 і адбылася гэтая сустрэча, якую можна лічыць знамянальнай у гісторыі падпольнай барацьбы Мінска з акупантамі.

«Савецкі прафесар служыць нямецкім уладам!», «Руская інтэлігенцыя выбірае новы парадак!», «Прафесар Клумаў з намі!» — трубілі гітлераўскія прапагандысты і іх падпявалы. А ён, прафесар Клумаў, ужо знаёміцца з Ісаем Казінцом, Канстанцінам Грыгор'евым, Жоржам Сямёнавым і іншымі падпольшчыкамі, атрымлівае сваё першае заданне — абсталяваць палявы шпіталь для партызанскага атрада, дамаўляецца аб яўках, паролях, сувязных:

— Да вас прыйдуць і скажуць «Масква». Вы павінны адказаць: «Берлін»...

(Працяг за тыдзень)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Romans z nieznajomym” (USA), 24—25. „Cudowna łamigłówka” (czeski), 26—27. „Towarzysze podróży” (radz.), 28—29.

**Дубіны**

„Wieczny kalendarz” (bułg.), 28—29.

**Нараўка**

„Na los szczęścia Baltazarze” (franc.), 25—29.

**Нарва**

„Szyfry” (polski), 25—29.

**Чыжы**

„Ucieczka w milczenie” (NRD), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**

„Trzy topole” (radz.), „Hrabina Cosel” (polski), 25—29.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Ostatni po Bogu” (polski), 25—29.

**Райск**

„Zosia” (radz.), 25—29.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Fatalny list” (angl.), „Zabawa w masakrę” (franc.), 24—27.

**Міхалова**

„Pamiętnik pani Hanki” (polski), 24—25. „Manewry Dniepr” (radz.), 26—27. „Siedem razy kobieta” (włoski), 28—29.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Paryż — Warszawa bez wizy” (polski), 24—29.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Słońce obcego nieba” (włoski), „Mam tu swój dom” (radz.), 24—29.

**Новы Двор**

„Żenia, Żenieczka, katiusza” (radz.), 28—29.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6992

